# Унукі і лецішча – гэта цудоўна. Але

## Пра што гутарылі ўдзельнікі круглага стала «Права пенсіянераў на роўны ўдзел

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

**У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» зладзілі круглы стол на тэму «Права пенсіянераў на роўны ўдзел у жыцці грамадства».**

Удзельнічалі загадчык аддзялення дзённага наведвання для грамадзян сталага ўзросту Валожынскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва **Ірына Кавяза**, старшыня клуба сталых людзей «Залатая восень» пры гэтай установе **Ганна Трухоўская**.

З Маладзечна да абмеркавання далучыліся заснавальнікі адукацыйнага цэнтра «Адкрытая прастора» **Валерыя Рошчына** і **Валянціна Сідоркіна.** Мадэравала размову журналіст **Зоя Хруцкая.**

**Хруцкая:**

**– Як вы лічыце, ці выпадаюць з жыцця грамадства людзі, якія ідуць на пенсію?**

**Кавяза:**

– Год 15 таму было так. Але калі ў гарадах пачалі адкрывацца тэрытарыяльныя цэнтры сацабслугоўвання насельніцтва, сітуацыя паступова стала мяняцца да лепшага.



Адзін з фотаздымкаў выставы «Актыўнае даўгалецце. Перазагрузка». На калажы Алены Жданюк – Аляксандр Вайткевіч у цэнтры Валожына ў 1973 і ў 2019 гадах.

Фота з архіва Аляксандра і Зоі ВАЙТКЕВІЧАЎ

> **Так, унукі, агарод, лецішча – гэта цудоўна. Але ў сталых людзей павінны быць час і для сябе. Нездарма ў нашым цэнтры запатрабаваныя такія заняткі, як ёга, пілатэс, фітнес.**

**Хруцкая:**

**– Гэта платныя паслугі?**

**Кавяза:**

– Так. Як кажуць, бясплатнае якасным бывае рэдка. Выкладчык-валанцёр – гэта добра, але мы аддаём перавагу выкладчыкам-прафесіяналам, якія працуюць на пастаяннай аснове як супрацоўнікі цэнтра. І атрымальнікі паслуг павінны быць упэўнены: заплаціўшы грошы, яны будуць мець якасную паслугу.

Аплата сімвалічная – адны заняткі каштуюць 70 капеек. На месяц атрымліваецца прыкладна 5 рублёў 60 капеек. І людзі гатовыя плаціць. Канешне, калі з'явіліся платныя заняткі, некаторыя адразу ўзрушаліся. А пасля зразумелі, што кошт невялікі, а карысць пэўная.

Хто хоча нечым займацца, усе пры справе. Хто не – хай далей ляжыць на канапе. Сёння ў аддзяленні 53 чалавекі. Платныя заняткі наведваюць 34. Бясплатна можна ўдзельнічаць у жыцці клубаў, культурных і асветніцкіх мерапрыемствах, якія ладзяць у цэнтры.

**Трухоўская:**

– Асабліва папулярны ў нас гурток па лячэбнай фізкультуры. Там малады трэнер. На кожных занятках – 15-20 чалавек. Часам здараецца такое, што месца ледзь хапае.

**Хруцкая:**

**– Спадарыня Ганна, вашы аднагодкі менш актыўныя, чым вы?**

**Трухоўская:**

– Канешне, не ўсе актыўныя. Ёсць людзі, што толькі гатовыя сядзець на канапе або на лаўцы. Яны не разумеюць, што я ўвесь час некуды іду: то на фітнес, то ў басейн. Знаходзяць прычыны: я плаваць не ўмею, я часу не маю, я не змагу так лёгаць усюды.

Пры цэнтры я ўзначальваю клуб сталых людзей «Залатая восень».

З сябрамі клуба мы жывём дружна, наведваем хворых. Тры разы на год абавязкова ходзім у рэстаран.

У нас ёсць свая каса, куды, па магчымасці, сябры клуба ўносяць грошы.

Многія прызнаюцца: не ўяўлялі, што ў Валожыне ёсць такі клуб. Вядома, у большасці з нас ёсць і градкі, і ўнукі. Але мы знаходзім час і для сябе.

**Хруцкая:**

**– Колькі чалавек у вашым клубе?**

**Трухоўская:**

– 20 жанчын.

**Хруцкая:**

**– А чаму няма мужчын?**

**Трухоўская:**

> **– Гэта вельмі сумна. Але прычына – высокая мужчынская смяротнасць. З 53 наведнікаў клуба – таксама большасць жанчын. І ў многіх з іх мужою няма, памерлі.**

**Хруцкая:**

**– Вы заўважалі, што людзі хвалююцца, як будуць жыць, калі пойдуць на пенсію?**

**Сідоркіна:**

– Я назіраю за сваімі бацькамі, сваякамі. Бачу, што некаторыя з іх сапраўды хвалююцца, ці знойдуць яны занятак на пенсіі, ці змогуць быць карыснымі. Дзевяць год таму была ў народных універсітэтах у Германіі. Назірала, чым людзі на пенсіі займаюцца там. Напрыклад, яны самі шыюць лялек, а пасля з імі ставяць п'есу. Бачыла натхненне ў іх вачах.

> **Прыемна, што ў Беларусі цяпер таксама становіцца больш прапаноў для сталых людзей. І як жыць на пенсіі, часта залежыць ад самога чалавека.**

**Рошчына:**

– Я падтрымаю Валянціну ў тым, што лад жыцця ў многім залежыць ад чалавека. Напрыклад, і сярод маладых людзей ёсць як актыўныя, так і пасіўныя. Тое ж можна сказаць і пра сталых. Калі назіраю за людзьмі са свайго кола, бачу, што некаторыя на пенсіі бачаць страціць статус. Але сапраўды, жыццё чалавека на пенсіі залежыць, перш за ўсё, ад характару.

**Хруцкая:**

**– Ці гатовыя сваякі да таго, што для бабуль на першым месцы будуць не ўнукі, а яны самі?**

**Кавяза:**

– Вядома, большасць не гатовая. Некаторым цяжка зразумець, чаму мама і бабуля не аддала грошы дзецям і ўнукам, а сама паехала на мора. Цяжка таксама перадолець традыцыю, што складвалася шмат гадоў, быццам бацькі павінны дагадваць дзяцей да пенсіі.

У Нарвегіі, напрыклад, у адным доме, але у розных кватэрах, могуць жыць бацькі і дзеці з унукамі. У дзяцей і ў думках няма, каб прасіць у бацькоў грошай альбо бясконца патрабаваць прыгляду за ўнукамі. І не таму, што бацькі супраць. Проста дзеці разумеюць, што ў бацькоў ёсць асабістае жыццё.

Раней у 60 год лічыліся старымі. А цяпер у гэтым узросце людзі маладыя і прыгожыя. З нашымі падыходамі часам цяжка глядзець на адносіны бацькоў і дзяцей за мяжой. Бо там падыход іншы: стаў паўнагадовым – значыць, самастойны. Але сэнс у гэтым ёсць.

**Трухоўская:**

– Бацькоўская дапамога дарослым дзецям – шматгадовая традыцыя. У мяне – дарослыя дачка і сын.

> **Дачка вельмі падтрымлівае маю актыўнасць, сама падштурхоўвае паўдзельнічаць у нейкіх мерапрыемствах, з'ездзіць у падарожжа.**

Для сына такія мае паводзіны часам незразумелыя. А я лічу, пакуль ёсць розум і ногі ходзяць, трэба быць актыўным. Напрыклад, адна з сяброўак нашага клуба нядаўна вярнулася з круіза па Еўропе. А ёй 86 год.

**Хруцкая:**

**– А ці трэба, каб бацькі дапамагалі дарослым дзецям?**

**Кавяза:**

– Калі маладая сям'я пачынае з нуля, няма свайго жылля, то, канешне, трэба дапамагчы, калі ёсць магчымасць. Бо, напрыклад, пабудавацца маладым самастойна амаль немагчыма. Канешне, наведваць унукаў, дарыць падарункі. А як жа? Мы гэта вельмі любім. Але правілы гэтым абавязкова захоўваць свае ўласныя межы.

**Сідоркіна:**

– Я заўсёды з удзячнасцю прымаю дапамогу ад сваіх бацькоў. Рада, што, калі еду

# патрэбны час для сябе
## у жыцці грамадства»


Валерыя Рошчына.


Валянціна Сідоркіна.


Ірына Кавяза.


Ганна Трухоўская.


Зоя Хруцкая.

Фота Настассі УЛІНАЙ

**– Кожнае лета ездзім у паездкі, наведваем заняткі. Напрыклад, я хаджу на фітнес два разы на тыдзень і ў басейн. Больш не магу, бо вялікая грамадская нагрузка.**

**– Ганна Трухоўская.**

па справах, яны могуць пасядзець з маімі дзецьмі. Але заўсёды звяртаю ўвагу, каб гэта дапамога не была цяжкай для іх саміх.

**Дапамога бацькоў – патрэбная і важная. Ёй дзеці не павінны злоўжываць. Мне падаецца, што калі мае дзеці вырастуць, то таксама буду дапамагаць ім. Толькі па магчымасці, не адмаўляючы ў чымсьці сабе.**

**Рошчына:**
– Бацькі маюць права на ўласнае жыццё. Я ўдзячная маме, што яна можа ўзяць маё дзіця з сабой у вёску. Але разумею, што ад доўгага знаходжання з малым дзіцем мама стоміцца.

Часта атрымліваецца так, што, як нарадзіліся дзеці, у людзей скончылася ўласнае жыццё. Спачатку дзяцей гадуеш, потым дапамагаеш ім, ужо дарослым, потым – гадуеш унукаў. Так не павінна быць.

**Лічу, што наш час пераломны. Людзі нарэшце павінны зразумець, што кожны, у тым ліку сталы чалавек, мае права на ўласнае жыццё.**

Пенсія – найлепшы час для сябе. Нехта, можа, і не хацеў бы ўвесь час сядзець з унукамі, але паддаецца грамадскай думцы. Думае пра тое, што людзі скажуць. А падобныя пытанні трэба вырашаць выключна ў сваёй сям'і, не зважаючы на грамадскую думку.

**Хруцкая:**
**– Ганна, ці мелі вы магчымасць працаваць на пенсіі колькі хацелі? Ці не адчувалі, што вас у працы прыцісняюць маладыя?**

**Трухоўская:**
– Не. Са мной такога не было.

**Я працавала бухгалтарам колькі хацела. На пенсію сышла сама.**

Дзецям сказала: буду дапамагаць, але па магчымасці.

**Хруцкая:**
**– Чаго вам не хапае ў цэнтры?**

**Трухоўская:**
– Нам усяго хапае. Калі нечага захочацца, кажам кіраўніцтву цэнтра. І да нас заўсёды прыслухоўваюцца. Кожнае лета ездзім у паездкі, наведваем заняткі. Напрыклад, я хаджу на фітнес два разы на тыдзень і ў басейн. Больш не магу, бо вялікая грамадская нагрузка.

**Хруцкая:**
**– Раскажыце, як вы рыхтуецеся да святаў, што ладзіце ў клубе?**

**Трухоўская:**
– Абіраем адказных за мерапрыемствы, вядучых. Купляем новыя сукенкі. Калі нехта глядзіць фотаздымкі з нашых мерапрыемстваў, адзначаюць, што ў нас прыгожыя ўборы.

**Кавяза:**
– Сапраўды, мае падапечныя заўсёды апранаюцца з густам. Робяць прычоскі. Мне не сорамна з імі, напрыклад, выехаць у тэатр. Яны – як мадэлі.

**Хруцкая:**
**– Чым вы займаецеся на святах?**

**Трухоўская:**
– Канешне, збіраемся не дзеля выпіўкі. Спяваем, танцуем, ладзім конкурсы. А яшчэ маем уласны гімн. Адразу спявалі, падглядаючы ў лісточкі, а цяпер усе вывучылі.

**Хруцкая:**
**– Ірына, якія магчымасці для сталых людзей гарантуе дзяржава?**

**Кавяза:**
– Тэрытарыяльны цэнтр – гэта дзяржаўная ўстанова. Тут ёсць, акрамя нашага аддзялення, таксама аддзяленне сацыяльнай дапамогі на даму. Ёсць дакумент, які рэгламентуе ўсе нашы паслугі.

**Сталыя людзі могуць замовіць сацыяльнага работніка, які дапаможа заплаціць за кватэру, сходзіць за лекамі ў аптэку і за прадуктамі ў краму, будзе суправаджаць пры патрэбе сталага чалавека ў паліклініку і г.д. Гэта гарантаваныя дзяржавай паслугі.**

**Хруцкая:**
**– Валерыя, вы – дырэктар адукацыйнага цэнтра. Якія перспектывы развіцця ў камерцыйных адукацыйных паслугах для сталых людзей?**

**Рошчына:**
– Больш шчыльна мы плануем заняцца адукацыяй сталых людзей ад першага верасня.

**Пакуль спрабавалі камп'ютарныя курсы. Хацелі зрабіць групавыя заняткі, але не атрымалася. У людзей – розны ўзровень валодання камп'ютарам, розныя здольнасці, памяць. Таму заняткі былі індывідуальныя.**

А вось спроба курсаў замежных моў пакуль не ўдалася. Пасля аб'явы патэлефанавалі чалавекі тры. А мы лічылі замежныя мовы запатрабаванымі. Бо пенсія – час для падарожжаў.

Канешне, нашы курсы каштуюць даражэй, чым у тэрытарыяльных цэнтрах. За сімвалічную аплату і на валанцёрскіх пачатках людзі не асабліва хочуць працаваць.

Мы бяром прыклад з вялікіх гарадоў, дзе ёсць падобныя арганізацыі – з Мінска, Гродна. Пакуль у планах – толькі камп'ютар і замежныя мовы.

Разглядаем таксама заняткі жывапісам. Хацелася б, каб былі спакойны, цярплівы выкладчык. Каб сталыя людзі на занятках і памалявалі, і пагутарылі, і чаю папілі.

**Хруцкая:**
**– Што з замежнай практыкі ў працы са сталымі людзьмі мы можам перанесці ў нашы гарады?**

**Сідоркіна:**
– Амаль усё. Праблема – у фінансах.

**У замежных гарадах праца са сталымі часцей за ўсё фінансуецца гарадам, а то і дзяржавай. У нас такой практыкі няма.**

**Кавяза:**
– Так, можна ўсё зрабіць, калі ёсць фінансы.

**Каб яны былі б большымі, мы ў Валожыне таксама маглі адкрыць свой універсітэт трэцяга ўзросту. І студэнтаў без цяжкасцяў знайшлі б. Але на энтузіязме людзі доўга працаваць не будуць.**

Наколькі магчыма, займаемся праектнай дзейнасцю. Супрацоўнічаем з нямецкім фондам «Памяць. Адказнасць. Будучыня». Год рэалізоўвалі праект «Папярэджанне кагнітыўных узроставых змен у сталых людзей».

Мерапрыемствы праекта былі накіраваныя на папярэджанне дэменцыі ў сталых людзей. Калі мы правялі першыя тэсты, то ў некаторых былі прыкметы ранняй дэменцыі. А тэставанне пасля праекта ўсцешыла. Цяпер ва ўсіх удзельнікаў – добрыя паказчыкі.

У межах праекта мы сустракаліся з удзельнікамі два разы на месяц. Са сталымі людзьмі працаваў псіхолаг, іншыя спецыялісты. Малявалі, развівалі дробную маторыку.

Быў яшчэ адзін вынік праекта – выстава «Актыўнае даўгалецце. Перазагрузка». Пра яе пісалі шматлікія СМІ. І «Рэгіянальная газета» таксама.

**Трухоўская:**

**– Мы, пенсіянеры, шмат адпрацавалі на карысць дзяржавы. Большасць з нас выгадавала добрых дзяцей. Чаму б цяпер дзяржаве не стварыць нейкі фонд для падтрымкі пенсіянераў? Каб мы маглі ездзіць у падарожжы і ладзіць свае актыўнасці.**

**Сідоркіна:**
– Каб была сістэмная работа і падтрымка дзяржавы, было б цудоўна. Але трэба збірацца і абмяркоўваць. Не заўсёды можна знайсці ўзаемапаразуменне з дзяржустановамі. Трэба арыентавацца не толькі на ўстановы, а і на зацікаўленых людзей.

**Рошчына:**
– Працаваць для сталых людзей заўсёды прыемна. Гэта самая ўдзячная аўдыторыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ФУТБОЛ

## «Граніт» 3:1 «Смаргонь»

Смаргонцы зноў атрымалі паразу, на гэты раз – 3:1 ад «Граніта». У першым тайме каманды гулялі ў роўны футбол, але ўжо ў другім за «Граніт» адзначыліся **Яўген Бобрук** і **Іван Верас**. Іх галы сталі дадаткам да рэалізаванага ўдара ад **Івана Юрына**. Мікіта Шугункоў забіў адзіны мяч за смаргонскую каманду. На дадзены момант смаргонцы знаходзяцца на перадапошнім месцы ў турнірнай табліцы Першай лігі.

## «Маладзечна» 3:0 «Вікторыя»

«Маладзечна» – адзіная каманда Павілля, якая ў гэтыя выхадныя засталася з перамогай. Маладзечанцы перамаглі «Вікторыю» з Мар'інай горкі. Галы за зялёна-белых двойчы забіў **Ігар Анцыпаў**, таксама адзначыўся **Сяргей Цвяцінскі**. ФК «Маладзечна» знаходзіцца на чацвёртым месцы ў Другой лізе.

## «Горкі» 1:1 «Ашмяны-БДУФК»

«Ашмяны» упершыню не атрымалі два ачка. Ашмянцы саступілі Горкам у барацьбе ў першым тайме, але ў другім адрэзку гульні змаглі адыграць гол. Такім чынам, матч завяршыўся 1:1. Голам адзначыўся **Дзмітры Купнеўскі**. За «Горкі» забіў **Дзяніс Лукашоў**. «Ашмяны-БДУФК» дагэтуль знаходзіцца на другім радку

## «Арсенал» 2:0 «Андэрдог»

«Андэрдог» сустракаўся з лідарам Другой лігі дзяржінскім «Андэрдогам». Чысціцы не змаглі навязаць сваму саперніку барацьбу, прапусціўшы па адным голе ў першым і ў другім тайме. За «Арсенал» забівалі **Красімір Капаў** і **Арцём Міраеўскі**. «Андэрдог» завяршыў гульню усухую. Цяпер чысціцы займаюць сёмае месца ў Другой лізе.

**Настасся УТКІНА.**

## Дзе і з кім згуляюць каманды Павілля на выхадных

20 ліпеня ў Першай і Другой лігах пройдуць матчы з удзелам каманд Павілля.

**16:00, Чысць. ФК «Белшына-2» – ФК «Андэрдог»**

**16:00, Стаўбцы. ФК «Нёман-Агра» – ФК «Маладзечна»**

**18:00, Ашмяны. ФК «Ашмяны-БДУФК» – ФК «Арсенал»**

**18:00, Пінск. ФК «Смаргонь» – ФК «Хваля»**

## 21 ліпеня адбудзецца Кубак Астравецкага раёна па міні-футболе

Кубак Астравецкага раёна па футболе правядуць 21 ліпеня 2019 года на базе АСК «Стадыён». Прыезд і рэгістрацыя каманд да 9:30. Адкрыццё і правядзенне спаборніцтваў пачнецца ў 10:00.

Для ўдзелу ў Кубку Астравецкага раёна па футболе, дапускаюцца каманды, якія прадстаўляюць калектывы фізічнай культуры сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў, прадпрыемстваў, арганізацый Астравецкага раёна, зборныя каманд. Склад каманды: 8 чалавек і 1 трэнер прадстаўнік.

**Даведкі па тэлефонах: +375447404043, 79-9-32.**

**Паводле ostrovets.by**

● СПАБОРНІЦТВЫ

## Беларускія атлеты ўзялі пяць узнагарод на Сусветнай летняй Універсіядзе

Першую ўзнагароду заваяваў плывец **Рыгор Пякарскі** на дыстанцыі 50 метраў батэрфляем, стаўшы трэцім. На рахунку беларускай зборнай срэбра гімнаста **Ягора Шарамкова** ў апорным скачку. На вышэйшую прыступку п'едэстала гонару ўзнялася спартсменка ў бегу на 200 метраў **Крысціна Ціманоўская**. Апошнюю ўзнагароду прынесла гімнастка **Юлія Еўчык** у практыкаванні з мячом і з абручом.

**Паводле belta.by.**

● БАСКЕТБОЛ

## Вызначаны краіны, якія прымуць чэмпіянаты Еўропы па баскетболе ў 2021 годзе

15 ліпеня ў Мюнхене адбыліся выбары краін, якім даверана права арганізацыі чэмпіянатаў Еўропы праз два гады. Жаночы Еўрабаскет-2021 пройдзе ў Францыі і Іспаніі. Мужчынскі чэмпіянат пройдзе ў Германіі, Грузіі, Італіі і Чэхіі.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота sb.by.

Галоўная зброя рыбака.

# На возеры Бялевічы спаборнічалі рыбакі

**У мінулую суботу, 13 ліпеня, на беразе возера Бялевічы сабраліся аматары рыбнай лоўлі. Каранёўскі сельвыканкам і Белкаўшчынскі Дом культуры пры падтрымцы спонсараў арганізавалі свята «Па шчупаковым загадзе».**

СМАРГОНЬ

Мерапрыемства праводзяць другі год, а старшыня мясцовага сельвыканкаму лічыць, што рыбалоўны турнір можа стаць брэндам рэгіёну.

Рыбалоўны турнір пачаўся ў шэсць раніцы з лёсавання. Так рыбакі, якія спаборнічалі між сабой, вызначалі месца на возеры. Адлегласць паміж сапернікамі склала дзесяць метраў. Па сігнале рыбакі закідвалі ў ваду вуды – так пачынаўся спаборніцтвы ў катэгорыях.

Першы конкурс заключаўся ў тым, каб як мага хутчэй злавіць рыбу. Старшыня Каранёўскага сельвыканкама **Святлана Гаспадарова** распавядае, што першую рыбіну злавілі літаральна праз некалькі хвілін пасля стартавага гудка.

Акрамя самага першага ўлову, рыбакі спаборнічалі ў намінацыях «Самы вялікі ўлоў», «Самая маленькая рыбка». Самы старэйшы і малодшыя ўдзельнікі таксама атрымалі прызы. На турнір прыехалі змагацца цэлымі сем'ямі. У канцы спаборніцтваў іх таксама ўзнагародзілі памятнымі прызамі.

Пасля спартыўнай часткі пачалася культурная праграма. Артысты Белкаўшчынскага дома культуры выступілі перад гледачамі з тэатралізаваным прадстаўленнем, натхнёнае Нептунам і міфічнымі героямі. Акрамя займальнай праграмы на беразе возера пачаўся гандаль. Людзі частаваліся юшкай, шашлыкамі і іншымі прысмакамі.

«Я лічу, што мы зрабілі сямейнае свята. Што такое рыбалка? Гэта не проста азарт, але і ўзаемадзеянне з прыродай. Думаю, мы зрабілі свята, якога яшчэ не было ў Смаргоні», – кажа Гаспадарова.

**Настасся УТКІНА.**

## Санітарныя і пажарныя дружыны з Астраўца сталі пераможцамі абласных спаборніцтваў

**У Гродне прайшлі абласныя спаборніцтвы сярод санітарных і добраахвотных пажарных дружын. Санітарная дружына БелАЭС паднялася на другую прыступку п'едэстала.**



Фота ostrovets.by.

Санітарная дружына Беларускай АЭС з медалямі і граматамі другога месца спаборніцтваў.

Астравеччыну на спаборніцтвах прадстаўлялі пераможцы раённых спаборніцтваў: санітарная дружына Беларускай атамнай электрастанцыі і добраахвотная пажарная дружына Астравецкага раёна газазабеспячэння.

Як і на раённым этапе, санітарныя дружыны аказвалі першую медыцынскую дапамогу, дэманстравалі укамплектаванасць санітарных сумак, уменне працаваць у ачагах камбінаванага і хімічнага паражэнняў, у зоне інфекцыйнага захворвання, праходзілі тэставанне. Акрамя гэтага, на вобласці іх чакаў яшчэ і творчы конкурс.

Паспяхова выступілі на спаборніцтвах пажарных дружын астравецкія газавікі. Яны выканалі баявое разгортванне, пераадолеўшы 100-метроўку з перашкодамі і пажарную эстафету. Каманда Астравецкага раёна газазабеспячэння стала трэцяй.

**Паводле ostrovets.by.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Салдат польскай арміі.
2. Гатовая прадукцыя з мукі.
3. Установленая мера, установленыя памеры.
4. Транспартны сродак, прызначаны для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.
6. Тытул дваранiна ў Іспаніі.
8. Помнік гэтаму даследчыку Кітая і Японіі, моваазнаўцу і дыпламату стаіць на Астравеччыне.
10. Які мае адносіны да цяперашняга часу, да сваёй эпохі.
11. Званне малодшага каманднага саставу ў арміі і міліцыі.
12. Частка цела ў чалавека і жывёл, у якой знаходзяцца нечага, страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.
13. Месца, праз якое трапляюць унутр.
15. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
18. Слова, моўны зварот.
19. Вёска ў Мядзельскім раёне, каля якога знаходзіцца радовішча пяскова-жвіровага матэрыяла.
21. Запасы, крыніцы.
24. У Перу маладыя людзі атрымліваюць гэты дакумент толькі пасля таго, як прагаласуюць.
25. У Тайландзе забаронена карміць гэтую жывёлу. За парушэнне прадугледжаны штраф.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Які мае афарбоўку аднаго з сямі асноўных колераў спектра – сярэдняга паміж аранжавым і зялёным.
5. Бяздомны чалавек, які не мае пэўнага прыстанішча і занятку.
7. Рад аднародных прадметаў ці жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца адно за адным.
9. Працэс адкладання самкамі рыб ікры і апладнення яе самцамі.
10. Вертыкальная частка будынка, якая служыць для падтрымкі перакрыццяў і для падзелу памяшкання на часткі.
12. Аднагадовая расліна сямейства злакавых, зерне якой скарыстоўваецца для прыгатавання хлеба.
14. Упрыгожанне з кветак або галінак, сплеценых у кружок.
16. Многія лічаць Напалеона Банапарта чалавекам без страху. Але ў яго была пажыццёвая фобія. Хто стаў аб'ектам фобіі імператара?
17. Неадукаваны, недасведчаны чалавек.
20. Самы папулярны від спорта на Кубе.
22. Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах.
23. Кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў.

## Адказы на крыжаванку з №28

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Кабура. 3. Плябань. 6. Жэст. 8. Рэактар. 9. Рызыка. 10. Клей. 11. Расол. 12. Драздовіч. 14. Акацыя. 17. Жухлы. 18. Бетон. 22. Кіёск. 23. Жалюзі. 27. Магілёў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Папера. 4. Бірулька. 5. Мястра. 6. Жмуркі. 7. Грошы. 13. Баец. 15. Рох. 16. Лявоны. 18. Бакал. 19. Дзедзіч. 20. Жвавы. 21. Танец. 24. Камяні. 25. Калектыў. 26. Кенгуру. 28. Бойлер.

## ● ГАРАСКОП ПОСПЕХУ

**Калі вы ў сумненнях, ці правільна абралі справу жыцця, магчыма, ваша прафесія проста не адпавядае знаку задыяка.**



**АВЕН.** Вы з тых людзей, каторым не так важна, у якой сферы працаваць. Галоўнае для вас – кантраляваць і кіраваць працэсам. Вам цяжка выконваць заданні, затое раздаваць іх вы сапраўды майстар.

**ЦЯЛЕЦ.** Прадстаўнікі гэтага знака задыяка вельмі працавітыя і настойлівыя. Але для вас ёсць свая ўмова для поспеху – ён магчымы толькі тады, калі вы любіце сваю працу і лічыце яе важнай.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы на вышыні паўсюль, дзе важна размаўляць з людзьмі. Тут вы раскрываецеся лепш за іншых. Камфортна вы сябе будзеце адчуваць у сферы продажаў, а таксама выкладчыкам, псіхолагам, акцёрам або журналістам.



**РАК.** Ракам як нікому цяжка мірыцца з прыземленай праўдай жыцця. У сваіх марах яны могуць займацца неіснуючай дзейнасцю, ставяць перад сабой мэты, дасягнуць якіх нерэальна. Каб не наступіць на гэтыя ж граблі, варта абраць працу, якой будзеце дапамагаць іншым. Медыцынская, сацыяльная, псіхалагічная сфера – тут вы кожны дзень будзеце патрэбнымі, і справіцеся лепш за іншых.

**ЛЕЎ.** Вы лідар па натуры, і кіраваць людзьмі – ваша прызванне. Вы здольныя эфектыўна арганізаваць працу падначаленых, а гэта каштоўны талент. Добра вы сябе адчуваеце і ў любой дзейнасці, дзе ў цэнтры ўвагі ваша асоба.

**ДЗЕВА.** Вы цярпець не можаце, калі памыляюцца, і цудоўна ўмееце выпраўляць самыя розныя памылкі. Рэстаўраваць карціны, працаваць з тэкстамі, займацца бухгалтэрыяй – усё гэта справы, дзе вы нібы рыба ў вадзе.



**ШАЛІ.** Мастацтва і дыпламатыя – тонкія вобласці, дзе вы цудоўна праяўляеце сябе. Вы ўмееце размаўляць так, каб вас слухалі, таму з Шаляў атрымліваюцца бліскучыя адвакаты.



**СКАРПІЁН.** Вам падабаецца здзіўляць іншых экстравагантнасцю. Таму найлепш вы будзеце сябе адчуваць у працы, якая дасць адчуванне адметнасці. Не спрабуйце ўкласціся ў рамкі, якія навязваюць іншыя. Ідзіце сваім шляхам, і менавіта ён зробіць вас шчаслівымі.



**СТРАЛЕЦ.** Вы любіце ўсё новае, і з задавальненнем укараняеце новыя падыходы. Вам даспадобы дух свабоды, таму гібкі графік – тое, што трэба.



**КАЗЯРОГ.** Вы ўніверсальны знак, таму любая дзейнасць вам будзе аднолькава па сілах. Патрэбна толькі, каб справа была запатрабаванай.



**ВАДАЛЕЙ.** Длоя вас падыходзіць работа з людзьмі або механічная дзейнасць. Вам трэба адчуваць, што дзейнасць спрыяе самаразвіццю.



**РЫБЫ.** Важней за ўсё для вас – пазбавіцца чужога ўплыву. Вы выдатна праяўляеце сябе, калі клапоцiцеся пра іншых.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | 8 | | | 1 | | |
| | | 2 | | 4 | 5 | | | 7 |
| | | | | | | 5 | 2 | 8 |
| 7 | 9 | | 3 | | | | | |
| | | | 4 | 2 | 1 | | | |
| | | 8 | | 6 | | 3 | 5 | |
| | 8 | 3 | | 1 | | | 7 | |
| 9 | | | | | 6 | | 4 | |
| | | | 9 | | 7 | | 1 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

…ШАЯ …ЬНАЯ …ГОДА …15


• ПРОСТА АНЕКДОТ

***

З-за холаду ў рэнтгенаўскім кабінеце робім толькі тэрміновыя пераломы.

***

У сем вечара, у сераду, у трэцім пад'ездзе адбудзецца сход. Павестка дня: выбары дамавога.

***

Кандытарская фабрыка запрашае на работу двух мужчын – аднаго для абгорткі, другога – для начынкі.

***

Ліфт уніз не падымае.

***

Запрашаюцца грузчыкі для цікавай работы.





Фота з архіва сям'і Галюк.

Іван Аляксандравіч Галюк 1937 года нараджэння і Марыя Аляксандраўна Юрэцкая 1938-2018 гадоў жыцця. Жылі ў Раеўшчыне Маладзечанскага раёна.

## Запрашаюць на выставу вясельных фота

МАЛАДЗЕЧНА

**Запрашаем на адкрыццё фотавыставы з сямейных альбомаў «Вясельны вянок».**

Яно адбудзецца 21 ліпеня ў 16 гадзін у цэнтры традыцыйнай культуры і побыту Плябані Маладзечанскага раёна.

На выставе прадстаўлены 30 вясельных фота жыхароў Маладзечна і раёна.

Самы стары здымак 1916 года.

Падчас прагляду выставы будуць гучаць вясельныя песні і ўспаміны вяскоўцаў пра вясельны абрад, атрыманыя ў час этнаграфічнай экспедыцыі ў чэрвені гэтага года.

Танцы дапоўняць нашу сустрэчу!

Уваход у музей: 2 рублі.

Выставу будуць экспанаваць да канца лета.

**Воля ТРУБАЧ, Маладзечна.**

## Чытайце праз тыдзень

• **Кава, шакалад і арахіс – гэтыя прадукты могуць знікнуць у сувязі са зменай клімату. Як у Германіі змагаюцца з магчымымі наступствамі глабальнага пацяплення і чаму Беларусі трэба браць у немцаў прыклад?**

## 20 ліпеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +9°C у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +32°C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,5 мм у 1984 годзе

Паводле meteoinfo.by.



• ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Які элемент мэблі лічыце самым важным?



**Павел Дашкевіч, студэнт:**
– Не так даўно мы набылі крэсла-качалку, і ведаеце, вельмі карысная рэч. Цяпер люблю пасядзець у ёй з цікавай кнігай, а часам і падрамаць.



**Алёна Радкевіч, бухгалтар:**
– Камод, таму што мне падабаюцца рэчы пад даўніну. Ён нагадвае даўнія часы. Ён невялікі, але ёмісты, падыходзіць пад любы інтэр'ер.



**Ганна Баярчук, школьніца:**
– Мне падабаюцца кухонныя шафы, часта там матуля хавае ўсялякія прысмакі. Таму я ведаю, дзе можна знайсці нешта салодкае і пачаставаць сваіх гасцей.



**Валянцін Самаль, кампрэсаршчык:**
– Люблю кухонны стол, бо за ім ядзім. Яшчэ дапамагае аб'ядназь ўсю сям'ю, і мы можам добра пагутарыць, нешта абмеркаваць або знайсці вырашэнне нейкай праблемы.



**Алёна Лабанок, пенсіянерка:**
– Я чалавек працавіты, на месцы не сяджу. То ў ягады з грыбамі іду, то агарод прыводжу ў парадак, а на мяккай канапе добра пасля адпачыць.



**Антон Балоцін, школьнік:**
– Самае галоўнае ў кватэры – ложак. На ім праводжу многа часу, не толькі сплю, але і выконваю часам хатняе заданне. Яшчэ ён падыходзіць, каб гуляць у планшэт.



**Марыя Анціпава, студэнтка:**
– Для мяне вельмі важна, каб было трумо, а калі яно белае, то ўвогуле цудоўна. Там зручна трымаць касметыку, а з раніцы збірацца на працу ці ва ўніверсітэт. Лічу, што гэткая штука павінна быць у кожнай дзяўчыны.

**Падрыхтавала Ірына БУБНОВА, факультэт журналістыкі БДУ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1264) 19.07.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1122. Падпісана ў друк у 9.00 18.07.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.